як бы баючыся каго.

Надыйшоўшая ноч схавала у цемні веску. Але многа хто ні спау у гэтую ноч! У том боку, адкуль несся гэты глухі грук, відаць буу бляск: то гарэлі селы і мястэчкі. Часам палоска сьвету скорынька пабяжыць па небі і згіне, а ні раз даходзіла да самае вескі. Гэта сьвяціў пражэктар, а для селян гэта было новае зьявішчо. Стрэляніна чулася усе бліжэй і бліжэй і нагапяла усе большы страх на селян. Таму, хто ні спау, гэта ноч паказалася годам.

Назаутра, як толькі разьвіднело, на вуліцы зьявіліся салдаты на конях верхамі. Коні іх задыхаліся, самі запыліліся, упацелі. Едучы па вуліцы, яны крычалі, каб людзі скарэй уцекалі ад гэтуль, а то іх пабьюць, калі тут астануцца.

Трудна сказаць, штò рабілося таго дня у весцы. Крык, гоман, як на пажары. Па вуліцах, як ніпрытомныя, бегалі людзі. Тут жа сланяліся каровы, бегалі коні. Усе зьмешалося, усе пашаламіліся. Там чуецца крык: нехта кагось кліча,—там чуваць плач і прычытанні. Усе жывое падпялося на ногі, усе давало знаць аб сабе.

У кожнаго гаспадара стаяу на двар воз, на каторы складваліся усе пажыткі селянскія: тут і адзежа, тут і харчэ, пасудзіна. На вазох уселіся і малыя дзеці. Тут усе, што мае уцекач, выежджаючы з свасй вескі.

Ніузабаукі зьявіліся адходзіушыя салдаты. Яны ціпер пашлі, кудою папала: маленькімі дарожкамі, полем, цераз лес...

За салдатамі рушылі і селяне с сваімі скарбамі на вазох.

А цераз вескі йшлі усе новыя кучы салдат і агалялі селянскія хаты...

(Канец будзе). **Антось Галіна.**

---

# Сымон Музыка.

**(Казка жыцця).**

**Часьць трэцця.**

IV.

Ніўспагадвасьць, насьміхан-
Спавівалі часта вы [не!...
У сум тужлівага зьмеркання
Дух шукання, дух жывы
І ўліваліся атрутай
У сэрцо згнаннікаў сьвятых;
Пацешалісь вы пакутай,
Нішчасьлівай доляй іх.
А за тых, с чыйго вы сэрца,
С чыіх вуснаў вы ішлі,—
У пагардзі, ў паняверцы
Цяжкі крыж яны нясьлі
І дарогі пракладалі
Скрозь гушчары нуднай цьмы,
Зерне праўды засевалі,
Ім ўсе сілы аддавалі,
Сокі сэрца і душы...
Беглі дні, і шлі нядзелі,—
Ні мянялася карчма:
Такжа сьцены тут глядзелі,
Дзьверы гэтак жа рыпелі,—
Усё упынку ім німа:
І так сама, па заказу,
Граў Сымон па вечарох,
Дзе дух творчасьці ні разу
Крыл сваіх узьняць ні мог.
І на волю хлопчык рваўся,
Толькі б зіму перабыць,
І памалу ён зьбіраўся
Долі новае ужыць:
Справіў вопратку на лето,
Грош сякі—такі урваў
І прастору, волі, сьвету
Зноў з надзеямі чакаў.
Меў Сымон адзін прыпынак,
Дзе душой ён спачываў—
Гэта быў палац—будынак,
Дзе ён з думкамі вітаў!
І дзе толькі ні насілі
Мары—думачкі яго!
І аб чым ні гаманілі,
Ні разказвалі чаго!
Раз, як карчма была поўна
І старых і маладых,
Вышаў хлопчык і любоўна
Кінуў вочкі на усіх,
На мамэнцік замяшаўся,
Потым скрыпку ўзяў і смык,
Усім істнеппем ім аддаўся,
І паліўся ціха зык.
Скрыпка што раз галаснее,
Прыямней гудзе струна,
Скрыпка плача, скрыпка млее,
Выгаварвае яна
І раптоўна ажывае,
Ей Сымонка падпевае:
«Божы Дух вітаў у высі;
Сьветы дзіўныя прад ім
У багнах тайнасьці нясьліся,
Песьні анелаў ліліся
У прасторы векавым.
Хвала Богу Вялікаму, хвала!
І зьбіраліся ў чароды
Хмаркі ў цемных глыбінох,
І схадзілісь ў хараводы
Шчасьця поўныя і згоды
Зоры, зьяючы ў агнёх.
Хвала і Сыну Божаму, хвала!
Уплыў і месячык двурогі—
Божы срэбраны сярпок—
У ніагляддыя разлогі
Асьвечаючы дарогі
Сумны бляск яго пацёк.
Хвала і Духу Божаму, хвала!
«Прылучалі сьпевы—гранне
К сьпевам анелаў сьвятых
Ціхіх ветраў патыханне,
Ясны зорачак бліскание
І хор хмараў залатых.
Хвала Едынаму Богу, хвала!
«Усё гарэло, ўсё дрыжало
На аўтарах тых сьвятоў,
Усюды радасьць пасылало
І Дух Божы выслаўляло
Хорам згодных галасоў.
Радасьць Божую, Сьветы паз-
[найце!
«А ў нізіне, с пад тумана,
Шэрай плямай, як ралля,
Цьмою цяжкаю заткана,
Бы навекі пахавана,
Спала сумная зямля.
Абудзіся, зямля, хвалі Бога!
«І ціхутка, нірухома
Крылля ноч над ёй ўзьняла.
Нічутна і нівядома,
Для зямелькі нізнаёма
Хвала гэтая была.
Асьвяціся і цьма пазнай ра-
дасьць!
«І тагды, як ўсё бліскало,
Зьяло ў полымі агнёў,
Там адна зямля маўчала,
Пых і гожасьць нарушала
Сьпева-торжышча сьвятоў.
Прылучайся, зямля, к Божым
[хорам!
«І бліскучымі крыламі
Ціха Дух Сьвяты узмахнуў,
Усемагутнымі вуснамі
Паслухмянымі ветрамі
У бок зямлі ён дыхануў.
Нясепе зямлі Божую Сілу!
«І сказаў ветром Дух Божы:
«Жыватворчасьці Мой Дух
Вы нясеце у падножжо
Трона-ўлады Сьветаў Божых,
Што раскінулісь вакруг.
Радуйся небо—ўваскросне
[зямля!
«І ніхай зямля спазнае
Радасьць, пыху небясоў,
І вада ў марох ўзыграе,
І абніме моц сьвятая
Лоны гораў і лясоў.
Дух Божы павее-ўстане зямля!
«І скажэце тым стварэнням,
Хто быў скрыўджаны людзьмі
І хто Божаго ўтхнення
Прагнуў сэрцам, як збавення,
«Духа Божаго прыймі!»
Радасьць сьпевайце, Духа
[хваленце!
І срэдзь цьмы зямлі нідбалай,
Дзе пануюць ноч і сон,
Над зямлёю заніпалай
Песьняй згоды, Божай хвалай
Пройдзе голас іх, як звон.
Хвала спрыяўшым Духа Сьвя-
[тога!
«Ціха воздух скалыхнулі
І павеялі ветрэ.
Ніжэй змрок к зямлі прыгнулі,
Воду, лес, зямлю кранулі
Духа Божаго дарэ.
Засьпевай жа, зямля, хвалу
[Богу!
«І зышло на землю дзіво:
Абудзіліся лясэ,
Дрэвы радасна, шчасліва,
Воды у згодзі гутарліва
Зьлілі ў песьню галасэ.
Хвала Богу Вялікаму, хвала!
«На усходзі слуп агністы
Устаў ад неба да зямлі,
І паліўся бляск празрысты,
Сьвет жаданы, сьвет прачысты,
Цені чорныя сайшлі.
[illegible] сьветламу дню, хвала!
«І [illegible] дарогамі без долі
Людзі, пасынкі зямлі,
Дзеці зьдзеку і паволі,
Што зьнявагай і злой воляй
Цяжка скрыўджаны былі.
Радуйцеся, ўсе пакрыўджа-
[ныя!
«І на іх ветрэ дыхнулі
Духам творчасьці сьвятым
І ім сілы разгарнулі,
Душу праўдай ахінулі,
Асьвяцілі сэрцо ім.
Людзі, ўслаўляйце Божую
[праўду!
«І пашлі яны як стрэлы,
Громам голас іх гучаў,
Ды адгук на гук іх сьмелы
Быў ні поўны і ні цэлы—
Іх сьвет гэты ні пазнаў.
Асьвяці, Божэ, люд ніўспа-
нялы!..
Граў Сымон,—зьвінелі стру-
Ціхай радасьцю гулі, [ны,
Бы вясной грамы-пяруны
Адгукаліся зямлі:
І дрыжалі жалем зыкі,
Сумам, жальбаю вілісь,
Бы у скрыпкі і ў музыкі—
Дзьве душы ў адну зьлілісь.
І сам хлопчык адмяніўся:
У вачах агонь бліскаў,

гону німа ніякае магчымасьці. Накурано так, што ні можна дыхнуць.

Здаецца, вагон у парадку. Але вось машына пайшла, і стала вельмі холадна. Вецяр урываецца у вагон праз пабітыя шыбы, чаго раней ні было відаць. Хутка перасталі апальваць вагон, і холад зрабіўся ні да вытрывання.

Чутна гутарка. Гавораць і аб Беларускай Радзі, але, відаць, мала разумеюць у ёй нават і тыя, хто быў на Усебеларускім Зьезьдзі.

— Нашто іщчэ беларускае войско? Маемо шмат клопату з украінскім, польскім, казакамі і другімі,—кажа адзін і далей дадае:—У нашай вёсці узброілі усіх баб і дзяцей, каб ішлі проціў легіонаў. Плач быў страшэнны. «А мае ж вы дзетачкі, я вас больш ні убачу жывых!»—галасілі мацеркі.

Другі салдат апаведае, як у іхняй вёсцы адзін пан, пакідаючы маёнтак, радзіў людзям берагчы насенне і скаціну, каб было чым сеяць і каб ні зьвесьці завадзкога быдла. Селяне просюць яго застацца, але ён кажа: «Не, ні хачу я глядзець, як будуць валіцца вашы головы праз батракоў, якія застаюцца у дварэ».

Разказчыка пытаюць: «Ну і як, падзялілі селяне усё дворнае?» З яго слоў далей відаць, што толькі зямельны камітэт—у ліку шаснаццаці асоб—меў карысьць, бо кожны з яго членаў дастававу па 60 рб. у месяц. Комітэт настанавіў, што батракі і служба, працаваўшыя у дварэ, павінны быць у першую чаргу здаволеныя. Такім чынам, вясковыя селяне нічога с гэтаго ні выгралі.

Трэці салдат апаведае трагічна-камічны эпізод, меўшы мейсцо на залезнай дарозі: У напакованным салдатамі вагоні едзе пажылая кабета. Мацнула яна сябе каля пазухі і пачала плакаць. «Бацюшкі, у мяне нехта 25 рб. выцягнуў!» Салдаты пачалі абшуківаць адзін другога і знайшлі у аднаго 150 рб., а паміж імі 25 рб. «Гэта мае грошы!» узрадавалася бабка. Як ні гарачыўся салдат, што гэта грошы яго, а у бабы ён іх ні браў, публіка ні паверыла і аддала ей 25 рб. Салдата ж за яго ланянку і кражу выкінулі у вакно на поўным ходзе машыны. Бабка супакоілася, радая, што знайшліся грошы. Але праз некольki мінют бабка ненацкам нашла свае грошы, і пачала голасна плакаць: «Ах, бацюшкі, грошы ёсьць, дарэмна выкінулі салдата». Хватаюць бабку і насылаюць яе праз вакно, на поўным ходзі, за салдатам.

20 лютаго пасажырскіх паездаў з Масквы на Мінск ужо ні пусьцілі. Шмат хто вярнуўся назад у Маскву. Дзеля усіх мейсц ні хапіло. Але чалавек на выдумкі майстар. На буферы палажылі дошкі і на гэтых дошках прыехалі у Мінск тыя, каму ні стало мейсца у вагонах.

У Мінску ужо былі немцы і палякі. Пасажыры у сэрцы дзякавалі Богу, што давялося убачыць родную старонку.

**А. Д.**

[illegible]-18 г.

---

## Што робіцца у Мінску.

С прыходам немцаў на вуліцах Мінску пацішэло, кончылася начная стралянina, зьменшыліся разбоі і грабежы. Крыху патанелі дробныя тавары і прадукты, хаця падвозу іщчэ німа. Ачышчавы і упарадкаваны вакзалы, прыбіраюцца вуліцы.

Почта покуль што зачынена. Ні працуе телеграф і тэлефон. Тэлеграфных і пачтовых зносін з другімі гарадамі німа. Каля нямецкай камэндатуры пастаянна стаіць некольki сот чалавек. Гэта бежанцы прыходзюць за рознымі справамі, пытаюцца, калі можна дастаць «пропуск» на Гродну, Вільню, Варшаву... Некаторыя, якобы, ужо паехалі.

Члены Мінскай Гарадзкой управы вярнуліся па свае мейсцо у той самы дзень, як большэвікі пакінулі горад, і цяпер ужо узяліся за працу.

За апошнія дні чуць ні увесь горад гаворыць аб беларусах, а Беларускім Народным сэкрэтарыяце. Большасьць гарадзкога насялення зрабілася прыхільнікамі беларушчыны.

25 лютаго г. г. немецкімі ваеннымі часьцямі быў заняты б. губэрнатарскі дом, у якім меў памешканне Беларускі Народны сэкрэтарыят. Тымчасам Сэкрэтарыят ні мае ніякога памешкання.

Тыдні два таму назад, маючыйся у Мінску «Хрысьціянскі Саюз Маладых Людзей», заложаны амэрыканцамі, зьвярнуўся дз беларускіх культурных устаноў с прапазыцыяй пераняць у «Саюза» арганізаваны ім жа клюб. Клюб гэты мае вялікае памешканне [на 600—800 чал.], там жа памешчаецца кінематограф, чытальня, танная «чайная» і др. Клюб пераняло «Т-во Беларускай Культуры», якое у хуткім часі мае арганізаваць там цэлы рад лекцыяў, навучных гутарак, літаратурных вечароў, а так сама беларускіх спэктаклёў.

Гарадзкая Дума заявіла, якобы, сваю прэтэнзію забраць гэты «Амэрыканскі барак» сабе, але, убачыўшы дакументы фармальнай передачы яго «Т-ву Беларускай Культуры», адступіла ад сваіх пажаданняў.

У хуткім часі мае выйсьці новая беларуская газэта «Беларускі Шлях.» Выходзіціме с пачатку двэ разы у тыдзень, а с часам пяройдзе на штодзенную.

Утворано «Мінскае Беларускае Прэдстаўніцтво» у якое уваходзюць прэдстаўнікі шмат ад якіх станоў г. Мінска.

---

## Хрэст на свабоду.*)

На усходзі красно небо,—
Нас ні дзівіць—так і трэба!
Кроу рэкамі льецца у моро,
Салдат гіне там ад гора
Без кашулі і без хлеба.
Нас ні дзівіць—так і трэба!

Гоняць сына, гоняць мужа,
Цара слухаем мы дужа,
З душы рвецца скарга у небо,
А мы маучым, так і трэба!

Жандар стрэле, казак бьецца,
У народа сьпіна гнецца
Ад налогаў с солі, хлеба,
А мы плацім—так і трэба!

У Пецярбурзі зьмерлі людзі:
Ім прышылі куляй грудзі,
Бо то с песьняй і алтарам
Пашлі с попам перад царам.
А цар сыпнуў, якбы з неба,
Тысяч куляў—так і трэба!

Дурняў хрысьцяць на свабоду,
Цар навуку даў народу,
Паказаў ім якбы з неба,
Што цара ім больш ні трэба!

Тагды Гапон у грамаду
Бяжыць, крычыць трэба ладу,
Трэба шроту, бомбаў, стрэльбаў,
Трэба біць нам гэтых шэльмаў!
Чуе яшчэ голас з неба,
Што цара павесіць трэба!

С той пары Масква, Варшава,
Рыга, Вільня, Бак, Лібава,
Беларусь, Літва, Расея
Гоняць вон цара-злодзея!
Народ чуе голас з неба,
Што цара больш ні патрэба!

Бомба—трах! Сяргей у шматы.
Мірскі бяжыць аж да хаты.
Цар у страху, сэнат млее,
Беданосцау аж хварэе.

Кладуць сеткі, каскі, бляхі,
Найбольш страшаць—гэта ляхі.
Ціха коляць, цэльне стрэляць
Так як жыто чэрцей меляць.
Народ чуе голас з неба,
Што свабоды яму трэба!

*) Нілегальны верш 1905 г.

---

**Рэдактар Я. Лёсік.**

---



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.